Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь

# Фізіка
# Астраномія
# 7-11 *класы*

## Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне

Дапаможнік для настаўнікаў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі

*Рэкамендавана
Навукова-метадычнай установай
«Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

Мінск
Нацыянальны інстытут адукацыі
«Аверсэв»
2017

# Прадмова

Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне вучэбнага матэрыялу арыентавана на настаўнікаў фізікі і астраноміі і складзена ў адпаведнасці з дзеючымі вучэбнымі праграмамі для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

У выданні прадстаўлена прыкладнае планаванне вучэбнага матэрыялу па фізіцы для 7—9 класаў (2 гадзіны на тыдзень), 10, 11 класаў (базавы ўзровень — 2 гадзіны на тыдзень), 10, 11 класаў (павышаны ўзровень — 4 гадзіны на тыдзень) і па астраноміі (1 гадзіна на тыдзень). У планаванні прадугледжана размеркаванне вучэбных гадзін па кожнай тэме, а таксама адзначаны тэмы ўрокаў і параграфаў адпаведных вучэбных дапаможнікаў, па якіх вывучаецца дадзеная тэма.

Дапаможнік не з'яўляецца нарматыўным дакументам, а закліканы аказаць метадычную дапамогу настаўніку, які па сваім меркаванні можа змяняць колькасць гадзін на вывучэнне асобных тэм, планаваць колькасць самастойных работ.

У дадзеным КТП змест практычнай часткі дамашніх заданняў па вывучанай тэме не канкрэтызаваны. Ён залежыць ад зместу і формы падачы тэарэтычнага матэрыялу на ўроку, узроўню падрыхтоўкі вучняў, іх інтарэсу да вучэбнага прадмета, пераваг настаўніка, аддадзеных дыдактычным матэрыялам розных аўтараў.

Асноўны вучэбны матэрыял павінен быць вывучаны на ўроку. Дамашняя работа ў сукупнасці з класнай дазваляе ператварыць агульнавучэбныя ўменні ў асобасныя якасці вучня, такія як самастойнасць, адказнасць, уменне перадольваць цяжкасці, размяркоўваць час, планаваць сваю дзейнасць.

Дамашняе заданне і яго якасць аказваюць вялікі ўплыў на паспяховую рэалізацыю ўсіх звёнаў (успрыманне, асэнсаванне, запамінанне, практычнае прымяненне ведаў, паўтарэнне на больш высокім узроўні) пазнавальных заканамернасцей, таму навучанне без дамашніх заданняў малаэфектыўнае.

Дамашнія заданні павінны быць разнастайнымі не толькі па форме, але і па відзе плануемай дзейнасці вучняў.

Па форме засваення тэарэтычнага матэрыялу дамашнія заданні могуць уяўляць:

— пераказ тэксту;

— складанне плана тэксту;

— падрыхтоўку расказу (пра фізічную велічыню, закон і г. д.) у адпаведнасці з «абагульненым планам»;

— падрыхтоўку расказу пра самае галоўнае ў параграфе;
— адказы на кантрольныя пытанні ў канцы параграфа;
— падрыхтоўку сваіх пытанняў па тэксце параграфа да «зялёнай хвалі»;
— распрацоўку структурна-лагічнай схемы вучэбнага матэрыялу параграфа;
— складанне сваёй (аўтарскай) задачы на разгледжаную ў тэксце з'яву ці формулу;
— рашэнне розных відаў задач (якасных, разліковых, графічных, эксперыментальных);
— падрыхтоўку праектаў і інш.

Аб'ём дамашняга задання і часавыя затраты на яго выкананне не павінны перавышаць рэкамендаваныя нормы. Пры гэтым настаўнік дыферэнцыруе аб'ём і форму задання па здольнасцях вучняў, не выходзячы за часавыя нормы, якія вызначаны пастановай Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ад 27 снежня 2012 г. № 206 («Санітарныя нормы і правілы "Патрабаванні для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі"», глава 7, п. 131). У адпаведнасці з дадзенай пастановай часавыя нормы на выкананне дамашніх заданняў складаюць:

7, 8 класы — 2,5 гадзіны;

9—11 класы — 3 гадзіны.

Незалежна ад формы і зместу дамашняга задання час на яго выкананне не павінен перавышаць 30—40 хвілін.

# Фізіка
# 7 клас

(2 гадзіны на тыдзень, усяго 70 гадзін)

Вучэбныя дапаможнікі, якія выкарыстоўваюцца:

1. Ісачанкава, Л. А. Фізіка : вучэб. дапам. для 7 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Л. А. Ісачанкава, Ю. Д. Ляшчынскі ; пад рэд. Л. А. Ісачанкавай. Мінск : Народная асвета, 2017.
2. Ісачанкава, Л. А. Сшытак для лабараторных работ па фізіцы для 7 класа : дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Л. А. Ісачанкава, Ю. Д. Ляшчынскі, Л. П. Ягорава. Мінск : Аверсэв, 2017.
3. Зборнік задач па фізіцы : вучэб. дапам. для 7 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Ю. І. Гладкоў [і інш.]. Мінск : Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012.

| № урока | Дата | Тэма ўрока | Мэты вывучэння | Матэрыял вучэбнага дапаможніка |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| **1. Фізічныя метады пазнання прыроды (12 г)** | | | | |
| 1 | | Фізіка — навука пра прыроду. Сувязь фізікі з іншымі навукамі. Фізіка і тэхніка. Фізічнае цела, фізічная з’ява, фізічная велічыня | Атрыманне ўяўленняў пра фізіку як навуку, сувязь фізікі з іншымі навукамі і тэхнікай, уплыў фізікі на стан і развіццё цывілізацыі; засваенне асноўных фізічных паняццяў: «фізічнае цела», «фізічная з’ява», «фізічная велічыня» | [1], § 1, 2 |
| 2 | | Метады даследавання ў фізіцы | Атрыманне ўяўленняў пра метады вывучэння фізічных з’яў | [1], § 3 |
| 3 | | Роля вымярэнняў у фізіцы. Прамыя і ўскосныя вымярэнні. Адзінкі вымярэння фізічных велічынь. Міжнародная сістэма адзінак (СІ) | Знаёмства з прамымі і ўскоснымі вымярэннямі і іх роллю ў фізіцы; засваенне адзінак вымярэння фізічных велічынь у СІ | [1], § 4, 5 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 4 | | Дзеянні над фізічнымі велічынямі. Рашэнне задач | Фарміраванне практычных уменняў па выкананні дзеянняў над фізічнымі велічынямі | [1], § 6 |
| 5 | | | | |
| 6 | | Вымяральныя прыборы. Цана дзялення. Дакладнасць вымярэнняў | Развіццё практычных уменняў карыстацца найпрасцейшымі вымяральнымі прыборамі, вызначаць цану дзялення шкалы прыбора і ацэньваць дакладнасць вымярэнняў прыборам з дадзенай шкалой | [1], § 7 |
| 7 | | Лабараторная работа № 1 «Вызначэнне цаны дзялення шкалы вымяральнага прыбора» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў вызначаць цану дзялення шкалы вымяральнага прыбора | [2] |
| 8 | | Рашэнне задач па тэме «Вымяральныя прыборы. Цана дзялення. Дакладнасць вымярэнняў» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы на вызначэнне цаны дзялення шкалы вымяральнага прыбора | [1] |
| 9 | | Лабараторная работа № 2 «Вымярэнне даўжыні» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў вымяраць адлегласці і памеры цел рознымі спосабамі | [2] |
| 10 | | Лабараторная работа № 3 «Вымярэнне аб'ёму» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў вымяраць аб'ёмы цел правільнай і няправільнай формы і ёмістасці пасудзін рознымі спосабамі | [2] |
| 11 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па главе «Фізічныя метады пазнання прыроды» | Фарміраванне ўменняў абагульняць і сістэматызаваць вучэбны матэрыял па главе «Фізічныя метады пазнання прыроды», выкарыстоўваючы розныя прыёмы | [1], [3] |
| 12 | | Кантрольная работа № 1 па главе «Фізічныя метады пазнання прыроды» | Кантроль ступені засваення ведаў і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні па главе «Фізічныя метады пазнання прыроды» | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| **2. Будова рэчыва (6 г)** | | | | |
| 13 | | Дыскрэтная будова рэчыва. Цеплавы рух часціц | Атрыманне ўяўленняў пра дыскрэтную будову рэчыва; засваенне паняццяў «малекула», «атам», ведаў пра дыскрэтную будову рэчыва; фарміраванне ўменняў апісваць і тлумачыць дыфузію і броўнаўскі рух на аснове ўяўленняў пра дыскрэтную будову рэчыва | [1], § 8, 9 |
| 14 | | | | |
| 15 | | Узаемадзеянне часціц рэчыва. Цвёрды, вадкі і газападобны стан рэчыва | Атрыманне ўяўленняў пра ўзаемадзеянне часціц рэчыва; фарміраванне ўменняў тлумачыць найпрасцейшыя з'явы на аснове ўяўленняў пра малекулярную будову рэчыва, параўноўваць і тлумачыць уласцівасці цвёрдых, вадкіх і газападобных рэчываў, зыходзячы з асаблівасцей размяшчэння, узаемадзеяння і руху іх часціц | [1], § 10, 11 |
| 16 | | Цеплавое расшырэнне | Фарміраванне ўменняў тлумачыць цеплавое расшырэнне цел, зыходзячы з дыскрэтнасці будовы рэчыва | [1], § 12 |
| 17 | | Тэмпература. Вымярэнне тэмпературы. Тэрмометры | Фарміраванне ведаў пра тэмпературу, яе фізічную сутнасць, прынцып вымярэння тэмпературы і пабудову шкалы тэмператур; засваенне правіл вымярэння тэмпературы | [1], § 13 |
| 18 | | Навукова-практычная канферэнцыя «Навошта патрэбны ў навуцы вымярэнні?» | Фарміраванне ўменняў абагульняць і сістэматызаваць вучэбны матэрыял па главе «Фізічныя метады пазнання прыроды» | |
| **3. Рух і сілы (25 г)** | | | | |
| 19 | | Механічны рух. Адноснасць спакою і руху. Траекторыя, шлях, час. Адзінкі шляху і часу | Атрыманне ўяўленняў пра механічны рух цел і яго адноснасць; засваенне сэнсу фізічных паняццяў, якія характарызуюць механічны рух: «траекторыя», «шлях», «прамежак часу»; фарміраванне ўменняў класіфікаваць механічны рух па відзе траекторыі, пераводзіць асноўныя адзінкі шляху і часу ў дольныя і кратныя | [1], § 14, 15 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 20 | | Раўнамерны рух. Скорасць. Адзінкі скорасці | Засваенне сэнсу фізічных паняццяў «раўнамерны рух», «скорасць»; развіццё практычных уменняў карыстацца фізічнымі паняццямі і велічынямі для апісання раўнамернага прамалінейнага руху | [1], § 16 |
| 21 | | Графікі шляху і скорасці пры раўнамерным прамалінейным руху | Фарміраванне ўменняў будаваць і чытаць графікі шляху і скорасці пры раўнамерным прамалінейным руху, вызначаць па графіках скорасць і шлях | [1], § 17 |
| 22 | | Рашэнне задач па тэме «Скорасць. Графікі шляху і скорасці пры раўнамерным прамалінейным руху» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы з выкарыстаннем формул і графікаў шляху і скорасці раўнамернага прамалінейнага руху | [1], [3] |
| 23 | | Нераўнамерны (пераменны) рух. Сярэдняя скорасць | Фарміраванне паняцця «сярэдняя скорасць нераўнамернага руху»; засваенне фізічнага сэнсу сярэдняй скорасці | [1], § 18 |
| 24 | | Лабараторная работа № 4 «Вывучэнне нераўнамернага руху» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў праводзіць вымярэнні шляху і часу і вызначаць сярэднюю скорасць нераўнамернага руху | [2] |
| 25 | | Рашэнне задач па тэме «Раўнамерны і нераўнамерны рух. Сярэдняя скорасць» | Фарміраванне практычных уменняў разлічваць характарыстыкі раўнамернага і нераўнамернага руху | [3] |
| 26 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па першай частцы главы «Рух і сілы» («Механічны рух») | Фарміраванне ўменняў абагульняць і сістэматызаваць вучэбны матэрыял па першай частцы главы «Рух і сілы» («Механічны рух») | [1], [3] |
| 27 | | Кантрольная работа № 2 па першай частцы главы «Рух і сілы» («Механічны рух») | Кантроль ступені засваення ведаў і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні па першай частцы главы «Рух і сілы» («Механічны рух») | |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 28 | | Чаму змяняецца скорасць руху цела? Інерцыя | Атрыманне ўяўленняў пра ўзаемадзеянне як прычыну змянення скорасці цела; засваенне фізічнай сутнасці паняцця «інерцыя»; фарміраванне практычнага ўмення тлумачыць праявы інерцыі ў прыродзе, тэхніцы і быце | [1], § 19 |
| 29 | | Маса цела. Шчыльнасць рэчыва. Адзінкі шчыльнасці | Фарміраванне паняцця масы цела як меры яго інертнасці; засваенне паняцця «шчыльнасць рэчыва», формулы для разліку шчыльнасці аднароднага рэчыва; фарміраванне ўменняў разлічваць масу цела і шчыльнасць рэчыва | [1], § 20 |
| 30 | | Лабараторная работа № 5 «Вымярэнне шчыльнасці рэчыва» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў вымяраць шчыльнасць рэчыва | [2] |
| 31 | | Рашэнне задач па тэме «Маса цела. Шчыльнасць рэчыва» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Маса цела. Шчыльнасць рэчыва» | [1], [3] |
| 32 | | Сіла | Атрыманне ўяўлення пра сілу як колькасную меру ўздзеяння аднаго цела на другое | [1], § 21 |
| 33 | | З'ява прыцяжэння. Сіла цяжару | Фарміраванне паняццяў «прыцяжэнне», «сіла цяжару»; засваенне формулы сілы цяжару | [1], § 22 |
| 34 | | Сіла пругкасці | Атрыманне ўяўленняў пра дэфармацыю цела; фарміраванне паняцця «сіла пругкасці», уменняў тлумачыць яе прыроду | [1], § 23 |
| 35 | | Вага цела | Фарміраванне паняцця «вага цела», уменняў выдзяляць істотныя прыметы гэтага паняцця, адрозніваць вагу цела ад сілы цяжару | [1], § 24 |
| 36 | | Адзінка сілы. Вымярэнне сілы. Дынамометр | Засваенне азначэння асноўнай адзінкі сілы (1 ньютан); разуменне будовы і прынцыпу дзеяння дынамометра | [1], § 25 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 37 | | Рашэнне задач па тэме «Сіла цяжару. Сіла пругкасці. Вага цела» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Сіла цяжару. Сіла пругкасці. Вага цела» | [1], [3] |
| 38 | | Складанне сіл. Раўнадзейная сіла | Фарміраванне паняцця «раўнадзейная сіла»; засваенне правіл знаходжання раўнадзейнай дзвюх сіл, накіраваных уздоўж адной прамой | [1], § 26 |
| 39 | | Рашэнне задач па тэме «Складанне сіл. Раўнадзейная сіла». Самастойная работа па тэме «Сіла цяжару. Сіла пругкасці. Вага цела» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Складанне сіл. Раўнадзейная сіла». Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Сіла цяжару. Сіла пругкасці. Вага цела» | [1], [3] |
| 40 | | Трэнне. Сіла трэння | Фарміраванне паняццяў трэння як фізічнай з'явы, сілы трэння як фізічнай велічыні; засваенне ведаў пра фактары, якія ўплываюць на значэнне сілы трэння | [1], § 27 |
| 41 | | Лабараторная работа № 6 «Вывучэнне сілы трэння» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў вымяраць сілу трэння і высвятляць фактары, якія ўплываюць на яе значэнне | [2] |
| 42 | | Навукова-практычная канферэнцыя «Што я ведаю пра сілы?» | Фарміраванне ўменняў абагульняць і сістэматызаваць вучэбны матэрыял па главе «Рух і сілы» | |
| 43 | | Кантрольная работа № 3 па другой частцы главы «Рух і сілы» («Сілы») | Кантроль ступені засваення ведаў і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні па другой частцы главы «Рух і сілы» («Сілы») | |
| **4. Ціск (13 г)** | | | | |
| 44 | | Ціск. Адзінкі ціску | Фарміраванне паняцця «ціск»; засваенне формулы для разліку ціску; абгрунтаванне спосабаў змянення ціску | [1], § 28 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 45 | | Рашэнне задач па тэме «Ціск цвёрдых цел» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Ціск цвёрдых цел» | [1], [3] |
| 46 | | Ціск газу | Засваенне прычыны ціску газу на сценкі пасудзіны; фарміраванне ўменняў аналізаваць уплыў змянення аб'ёму газу і яго тэмпературы на ціск газу | [1], § 29 |
| 47 | | Перадача ціску газамі і вадкасцямі. Закон Паскаля | Фарміраванне ведаў пра механізм перадачы знешняга ціску вадкасцямі і газамі; засваенне закону Паскаля і яго практычнага выкарыстання | [1], § 30 |
| 48 | | Ціск вадкасці, абумоўлены яе вагой | Засваенне паняцця «гідрастатычны ціск»; разуменне формулы для разліку гідрастатычнага ціску; фарміраванне ўменняў тлумачыць на аснове закону Паскаля прыроду ціску ўнутры вадкасці | [1], § 31 |
| 49 | | Рашэнне задач па тэме «Ціск вадкасці» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Ціск вадкасці» | [1], [3] |
| 50 | | Сазлучаныя пасудзіны | Фарміраванне паняцця «сазлучаныя пасудзіны»; засваенне ўмоў раўнавагі аднароднай вадкасці ў сазлучаных пасудзінах; знаёмства з практычным прымяненнем сазлучаных пасудзін | [1], § 32 |
| 51 | | Рашэнне задач па тэме «Сазлучаныя пасудзіны» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Сазлучаныя пасудзіны» | [1], [3] |
| 52 | | Газы і іх вага. Атмасферны ціск | Засваенне ведаў пра наяўнасць масы ў газаў; фарміраванне паняцця «атмасферны ціск»; разуменне прычыны яго існавання; засваенне прынцыпаў вымярэння атмасфернага ціску | [1], § 33, 34 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 53 | | Вымярэнне атмасфернага ціску. Барометры і манометры | Разуменне будовы і прынцыпу дзеяння ртутнага барометра і барометра-анероіда, а таксама адкрытага вадкаснага і металічнага манометраў | [1], § 35 |
| 54 | | Рашэнне задач па тэме «Атмасферны ціск» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Атмасферны ціск» | [1], [3] |
| 55 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па главе «Ціск» | Фарміраванне ўменняў абагульняць і сістэматызаваць вучэбны матэрыял па главе «Ціск» | [1] |
| 56 | | Кантрольная работа № 4 па главе «Ціск» | Кантроль ступені засваення ведаў і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні па главе «Ціск» | |
| **5. Работа. Магутнасць. Энергія (10 г)** | | | | |
| 57 | | Механічная работа. Адзінкі работы | Засваенне паняцця «механічная работа», формулы для разліку работы сілы, якая дзейнічае ўздоўж напрамку руху цела; фарміраванне ўменняў пераводзіць дольныя і кратныя адзінкі работы ў асноўную адзінку СІ | [1], § 36 |
| 58 | | Карысная і здзейсненая (поўная) работа. Каэфіцыент карыснага дзеяння (ККД) | Фарміраванне паняццяў «карысная работа», «здзейсненая (поўная) работа», «эфектыўнасць выканання работы (ККД)»; засваенне формул для разліку механічнай работы і ККД | [1], § 37 |
| 59 | | Рашэнне задач па тэме «Механічная работа. ККД» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Механічная работа. ККД» | [1], [3] |
| 60 | | Магутнасць. Адзінкі магутнасці | Засваенне паняцця «магутнасць», формулы для разліку магутнасці; фарміраванне ўменняў пераводзіць дольныя і кратныя адзінкі магутнасці ў асноўную адзінку СІ | [1], § 38 |
| 61 | | Рашэнне задач па тэме «Магутнасць» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Магутнасць» | [1], [3] |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 62 | | Кінетычная энергія. Рашэнне задач па тэме «Кінетычная энергія» | Атрыманне ўяўленняў пра энергію; засваенне паняцця «кінетычная энергія», формулы для разліку кінетычнай энергіі цела; фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па вызначэнні велічынь, якія ўваходзяць у формулу кінетычнай энергіі | [1], § 39 |
| 63 | | Патэнцыяльная энергія. Разлік патэнцыяльнай энергіі | Атрыманне ўяўленняў пра патэнцыяльную энергію; засваенне паняцця «патэнцыяльная энергія», формулы для разліку патэнцыяльнай энергіі цела, паднятага над паверхняй Зямлі, залежнасці патэнцыяльнай энергіі ад выбару нулявога ўзроўню | [1], § 40, 41 |
| 64 | | Рашэнне задач па тэме «Патэнцыяльная энергія» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Патэнцыяльная энергія» | [1], [3] |
| 65 | | Закон захавання механічнай энергіі | Фарміраванне паняцця «поўная механічная энергія цела (сістэмы цел)»; засваенне закону захавання механічнай энергіі і ўмоў, пры якіх ён выконваецца | [1], § 42 |
| 66 | | Рашэнне задач па тэме «Закон захавання механічнай энергіі» | Фарміраванне практычных уменняў рашаць задачы па тэме «Закон захавання механічнай энергіі» | [1], [3] |
| 67 | | Дыягнастычны тэст | Праверка ступені сфарміраванасці кампетэнцый, неабходных для паспяховага засваення ведаў па фізіцы | |
| 68 | | Выніковыя заняткі | | |

**Рэзерв — 2 г**

## 8 клас

(2 гадзіны на тыдзень, усяго 70 гадзін)

Вучэбныя дапаможнікі, якія выкарыстоўваюцца:

1. Ісачанкава, Л. А. Фізіка : падруч. для 8 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Л. А. Ісачанкава, Ю. Д. Ляшчынскі ; пад рэд. Л. А. Ісачанкавай. Мінск : Народная асвета, 2015.
2. Ісачанкава, Л. А. Сшытак для лабараторных работ і эксперыментальных даследаванняў па фізіцы для 8 класа : дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Л. А. Ісачанкава, Ю. Д. Ляшчынскі, Л. П. Ягорава. Мінск : Аверсэв, 2016, 2017.
3. Ісачанкава, Л. А. Зборнік задач па фізіцы : вучэб. дапам. для 8 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Л. А. Ісачанкава, І. Э. Слесар. Мінск : Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012.

| № урока | Дата | Тэма ўрока | Матэрыял вучэбнага дапаможніка |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **1. Цеплавыя з'явы (18 г)** | | | |
| 1 | | Цеплавы рух часціц рэчыва. Унутраная энергія | [1], § 1, 2 |
| 2 | | Спосабы змянення ўнутранай энергіі | [1], § 3 |
| 3 | | Цеплаправоднасць | [1], § 4 |
| 4 | | Канвекцыя | [1], § 5 |
| 5 | | Выпраменьванне. Самастойная работа па тэме «Унутраная энергія. Цеплаправоднасць. Канвекцыя» | [1], § 6 |
| 6 | | Разлік колькасці цеплаты пры награванні і ахаладжэнні. Удзельная цеплаёмістасць | [1], § 7 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 7 | | Лабараторная работа № 1 «Параўнанне колькасці цеплаты пры цеплаабмене» | [2] |
| 8 | | Рашэнне задач па тэме «Разлік колькасці цеплаты пры награванні і ахаладжэнні» | [3] |
| 9 | | Лабараторная работа № 2 «Вымярэнне ўдзельнай цеплаёмістасці рэчыва» | [2] |
| 10 | | Гарэнне. Удзельная цеплата згарання паліва | [1], § 8 |
| 11 | | Рашэнне задач па тэме «Гарэнне. Удзельная цеплата згарання паліва» | [3] |
| 12 | | Плаўленне і крышталізацыя. Удзельная цеплата плаўлення і крышталізацыі | [1], § 9, 10 |
| 13 | | Рашэнне задач па тэме «Плаўленне і крышталізацыя» | [3] |
| 14 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Разлік колькасці цеплаты пры награванні і ахаладжэнні. Гарэнне. Плаўленне» | [1], [3] |
| 15 | | Кантрольная работа № 1 па тэме «Разлік колькасці цеплаты пры награванні і ахаладжэнні. Гарэнне. Плаўленне» | |
| 16 | | Выпарэнне вадкасцей. Фактары, якія ўплываюць на скорасць выпарэння | [1], § 11 |
| 17 | | Кіпенне вадкасцей. Удзельная цеплата параўтварэння | [1], § 12 |
| 18 | | Рашэнне задач па тэме «Кіпенне вадкасцей. Удзельная цеплата параўтварэння» | [3] |
| **2. Электрамагнітныя з'явы (35 г)** | | | |
| 19 | | Электрызацыя цел. Узаемадзеянне электрычных зарадаў | [1], § 13 |
| 20 | | Праваднікі і дыэлектрыкі | [1], § 14 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 21 | | Электрызацыя праз уплыў | [1], § 15 |
| 22 | | Электрычны зарад. Элементарны зарад | [1], § 16 |
| 23 | | Будова атама. Іоны | [1], § 17 |
| 24 | | Электрычнае поле. Напружанне. Самастойная работа па тэме «Электрызацыя цел. Электрычны зарад. Будова атама» | [1], § 18 |
| 25 | | Адзінка напружання. Разлік работы ў электрычным полі | [1], § 19 |
| 26 | | Рашэнне задач па тэме «Напружанне. Работа сіл электрычнага поля па перамяшчэнні зараду» | [3] |
| 27 | | Электрычны ток. Крыніцы току. Дзеянні току | [1], § 20, 21 |
| 28 | | Сіла і напрамак электрычнага току | [1], § 22 |
| 29 | | Рашэнне задач па тэме «Сіла электрычнага току» | [3] |
| 30 | | Электрычны ланцуг. Вымярэнне сілы току і напружання. Самастойная работа па тэме «Напружанне. Сіла электрычнага току» | [1], § 23 |
| 31 | | Лабараторная работа № 3 «Зборка электрычнага ланцуга і вымярэнне сілы току ў ім» | [2] |
| 32 | | Сувязь сілы току і напружання. Закон Ома для ўчастка ланцуга | [1], § 24 |
| 33 | | Адзінка супраціўлення. Разлік супраціўлення | [1], § 25 |
| 34 | | Лабараторная работа № 4 «Вымярэнне напружання і супраціўлення праваднікa» | [2] |
| 35 | | Рашэнне задач па тэме «Закон Ома для ўчастка электрычнага ланцуга. Электрычнае супраціўленне» | [3] |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 36 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Электрычнае супраціўленне. Закон Ома» | [1], [3] |
| 37 | | Кантрольная работа № 2 па тэме «Электрычнае супраціўленне. Закон Ома» | |
| 38 | | Паслядоўнае злучэнне праваднікоў. Рэастат | [1], § 26 |
| 39 | | Лабараторная работа № 5 «Вывучэнне паслядоўнага злучэння праваднікоў» | [2] |
| 40 | | Рашэнне задач па тэме «Паслядоўнае злучэнне праваднікоў» | [3] |
| 41 | | Паралельнае злучэнне праваднікоў | [1], § 27 |
| 42 | | Лабараторная работа № 6 «Вывучэнне паралельнага злучэння праваднікоў» | [2] |
| 43 | | Рашэнне задач па тэме «Паралельнае злучэнне праваднікоў» | [3] |
| 44 | | Рашэнне задач па тэме «Паслядоўнае і паралельнае злучэнне праваднікоў» | [3] |
| 45 | | Работа і магутнасць току. Закон Джоўля — Ленца | [1], § 28 |
| 46 | | Рашэнне задач па тэме «Работа і магутнасць току. Закон Джоўля — Ленца» | [3] |
| 47 | | Выкарыстанне і эканомія электраэнергіі. Бяспека пры рабоце з электрычнымі ланцугамі. Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Электрычныя з’явы» | [1], § 29, 30; [3] |
| 48 | | Кантрольная работа № 3 па тэме «Электрычныя з’явы» | |
| 49 | | Пастаянныя магніты | [1], § 31 |
| 50 | | Магнітнае поле | [1], § 32 |
| 51 | | Магнітнае поле прамога праваднiка і шпулі з токам. Электрамагніт | [1], § 33, 34 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 52 | | Рашэнне задач па тэме «Узаемадзеянне магнітаў. Магнітнае поле» | [3] |
| 53 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Электрамагнітныя з'явы». Самастойная работа па тэме «Электрамагнітныя з'явы» | [1], [3] |
| **3. Светлавыя з'явы (14 г)** | | | |
| 54 | | Крыніцы святла | [1], § 35 |
| 55 | | Скорасць святла. Прамалінейнасць распаўсюджвання святла | [1], § 36 |
| 56 | | Адбіццё святла | [1], § 37 |
| 57 | | Люстры. Пабудаванне відарыса прадмета ў плоскім люстры | [1], § 38 |
| 58 | | Рашэнне задач па тэме «Прамалінейнасць распаўсюджвання святла. Адбіццё святла» | [3] |
| 59 | | Праламленне святла. Самастойная работа па тэме «Прамалінейнасць распаўсюджвання святла. Адбіццё святла» | [1], § 39 |
| 60 | | Лінзы. Фокусная адлегласць і аптычная сіла лінзы | [1], § 40 |
| 61 | | Пабудаванне відарысаў у тонкіх лінзах | [1], § 41 |
| 62 | | Рашэнне задач па тэме «Лінзы. Пабудаванне відарысаў у тонкіх лінзах» | [3] |
| 63 | | Лабараторная работа № 7 «Вымярэнне фокуснай адлегласці і аптычнай сілы збіральнай лінзы» | [2] |
| 64 | | Рашэнне задач па тэме «Праламленне святла. Лінзы» | [3] |

*Заканчэнне*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 65 | | Вока як аптычная сістэма. Дэфекты зроку. Акуляры | [1], § 42, 43 |
| 66 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Светлавыя з'явы» | [1], [3] |
| 67 | | Кантрольная работа № 4 па тэме «Светлавыя з'явы» | |
| 68 | | Выніковыя заняткі | |

**Рэзерв — 2 г**

## 9 клас

(2 гадзіны на тыдзень, усяго 70 гадзін)

Вучэбныя дапаможнікі, якія выкарыстоўваюцца:

1. Ісачанкава, Л. А. Фізіка : падруч. для 9 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Л. А. Ісачанкава, Г. У. Пальчык, А. А. Сакольскі ; пад рэд. А. А. Сакольскага. Мінск : Народная асвета, 2015.
2. Ісачанкава, Л. А. Сшытак для лабараторных работ і эксперыментальных даследаванняў па фізіцы для 9 класа : дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Л. А. Ісачанкава, І. І. Жалнярэвіч, І. М. Мядзведзь. Мінск : Аверсэв, 2016, 2017.
3. Ісачанкава, Л. А. Зборнік задач па фізіцы : вучэб. дапам. для 9 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / Л. А. Ісачанкава, Г. У. Пальчык, У. У. Дарафейчык. Мінск : Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012.

| № урока | Дата | Тэма ўрока | Матэрыял вучэбнага дапаможніка |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | **1. Кінематыка (28 г)** | |
| 1 | | Матэрыя. Прастора і час. Механічны рух | [1], § 1 |
| 2 | | Задача кінематыкі. Віды механічнага руху | [1], § 2 |
| 3 | | Адноснасць руху. Сістэма адліку | [1], § 3 |
| 4 | | Скалярныя і вектарныя велічыні. Дзеянні над вектарамі | [1], § 4 |
| 5 | | Праекцыя вектара на вось | [1], § 5 |
| 6 | | Рашэнне задач па тэме «Дзеянні над вектарамі. Праекцыя вектара на вось» | [3] |
| 7 | | Шлях і перамяшчэнне. Раўнамерны прамалінейны рух. Скорасць | [1], § 6, 7 |
| 8 | | Графічны паказ раўнамернага прамалінейнага руху | [1], § 8 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 9 | | Рашэнне задач па тэме «Раўнамерны рух» | [3] |
| 10 | | Нераўнамерны рух. Імгненная скорасць | [1], § 9 |
| 11 | | Складанне скарасцей. Самастойная работа па тэме «Раўнамерны рух» | [1], § 10 |
| 12 | | Рашэнне задач па тэме «Нераўнамерны рух. Складанне скарасцей» | [3] |
| 13 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Раўнамерны і нераўнамерны рух. Складанне скарасцей» | [1], [3] |
| 14 | | Кантрольная работа № 1 па тэме «Раўнамерны і нераўнамерны рух. Складанне скарасцей» | |
| 15 | | Паскарэнне | [1], § 11 |
| 16 | | Скорасць пры прамалінейным руху з пастаянным паскарэннем | [1], § 12 |
| 17 | | Лабараторная работа № 1 «Вызначэнне абсалютнай і адноснай хібнасцей прамых вымярэнняў» | [2] |
| 18 | | Рашэнне задач па тэме «Паскарэнне. Скорасць пры прамалінейным руху з пастаянным паскарэннем» | [3] |
| 19 | | Перамяшчэнне, каардыната і шлях пры роўнапераменным руху | [1], § 13 |
| 20 | | Лабараторная работа № 2 «Вымярэнне паскарэння пры роўнапаскораным руху цела» | [2] |
| 21 | | Лабараторная работа № 3 «Вывучэнне заканамернасцей роўнапаскоранага руху» | [2] |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 22 | | Рашэнне задач па тэме «Шлях, перамяшчэнне і каардыната цела пры прамалінейным руху з пастаянным паскарэннем» | [3] |
| 23 | | Крывалінейны рух. Лінейная і вуглавая скорасці. Самастойная работа па тэме «Роўнапаскораны рух» | [1], § 14 |
| 24 | | Паскарэнне пункта пры яго руху па акружнасці | [1], § 15 |
| 25 | | Лабараторная работа № 4 «Вывучэнне руху цела па акружнасці» | [2] |
| 26 | | Рашэнне задач па тэме «Крывалінейны рух» | [3] |
| 27 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Рух з паскарэннем» | [1], [3] |
| 28 | | Кантрольная работа № 2 па тэме «Рух з паскарэннем» | |
| **2. Дынаміка (25 г)** | | | |
| 29 | | Асноўная задача дынамікі. Сіла | [1], § 16 |
| 30 | | Умовы раўнавагі. Момант сілы. Складанне і раскладанне сіл | [1], § 17 |
| 31 | | Рашэнне задач па тэме «Сіла. Умовы раўнавагі. Момант сілы. Складанне і раскладанне сіл» | [3] |
| 32 | | Рух па інерцыі. Першы закон Ньютана. Інерцыяльныя сістэмы адліку | [1], § 18 |
| 33 | | Маса | [1], § 19 |
| 34 | | Другі закон Ньютана — асноўны закон дынамікі | [1], § 20 |
| 35 | | Рашэнне задач па тэме «Першы і другі законы Ньютана». Самастойная работа па тэме «Сіла. Умовы раўнавагі» | [3] |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 36 | | Рашэнне задач па тэме «Другі закон Ньютана» | [3] |
| 37 | | Трэці закон Ньютана. Прынцып адноснасці Галілея | [1], § 21 |
| 38 | | Рашэнне задач па тэме «Законы Ньютана» | [3] |
| 39 | | Дэфармацыя цел. Сіла пругкасці. Закон Гука | [1], § 22 |
| 40 | | Лабараторная работа № 5 «Праверка закону Гука» | [2] |
| 41 | | Рашэнне задач па тэме «Закон Гука» | [3] |
| 42 | | Сілы трэння. Сілы супраціўлення асяроддзя | [1], § 23 |
| 43 | | Лабараторная работа № 6 «Вымярэнне каэфіцыента трэння слізгання» | [2] |
| 44 | | Рашэнне задач па тэме «Сілы трэння. Сілы супраціўлення асяроддзя». Самастойная работа па тэме «Законы Ньютана» | [3] |
| 45 | | Рух цела пад дзеяннем сілы цяжару | [1], § 24 |
| 46 | | Рашэнне задач па тэме «Рух цела пад дзеяннем сілы цяжару» | [3] |
| 47 | | Лабараторная работа № 7 «Вывучэнне руху цела, кінутага гарызантальна» | [2] |
| 48 | | Цэнтр цяжару. Віды раўнавагі | [1], § 25 |
| 49 | | Закон сусветнага прыцягнення | [1], § 26 |
| 50 | | Рашэнне задач па тэме «Закон сусветнага прыцягнення» | [3] |
| 51 | | Вага. Бязважкасць і перагрузкі | [1], § 27 |
| 52 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Дынаміка» | [1], [3] |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 53 | | Кантрольная работа № 3 па тэме «Дынаміка» | |
| | | **3. Законы захавання (14 г)** | |
| 54 | | Імпульс цела. Імпульс сістэмы цел | [1], § 28 |
| 55 | | Закон захавання імпульсу. Рэактыўны рух | [1], § 29 |
| 56 | | Лабараторная работа № 8 «Праверка закону захавання імпульсу» | [2] |
| 57 | | Рашэнне задач па тэме «Імпульс цела. Імпульс сістэмы цел. Закон захавання імпульсу» | [3] |
| 58 | | Работа сілы. Магутнасць | [1], § 30 |
| 59 | | Рашэнне задач па тэме «Работа сілы. Магутнасць» | [3] |
| 60 | | Патэнцыяльная энергія. Самастойная работа па тэме «Закон захавання імпульсу. Работа сілы. Магутнасць» | [1], § 31 |
| 61 | | Кінетычная энергія. Поўная энергія сістэмы цел | [1], § 32 |
| 62 | | Рашэнне задач па тэме «Патэнцыяльная энергія. Кінетычная энергія» | [3] |
| 63 | | Закон захавання энергіі | [1], § 33 |
| 64 | | Рашэнне задач па тэме «Закон захавання энергіі» | [3] |
| 65 | | Лабараторная работа № 9 «Праверка закону захавання механічнай энергіі» | [2] |
| 66 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Законы захавання» | [1], [3] |
| 67 | | Кантрольная работа № 4 па тэме «Законы захавання» | |
| 68 | | Выніковыя заняткі | |

**Рэзерв — 2 г**

# 10 клас
# (базавы ўзровень)

(2 гадзіны на тыдзень, усяго 70 гадзін)

Вучэбныя дапаможнікі, якія выкарыстоўваюцца:

1. Фізіка : вучэб. дапам. для 10 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / А. У. Грамыка [і інш.]. Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2013.
2. Сшытак для лабараторных работ па фізіцы для 10 класа : дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / А. У. Грамыка [і інш.]. Мінск : Аверсэв, 2016, 2017.
3. Сборник задач по физике. 10 класс : пособие для учащихся учреждений общ. сред. образования / Е. В. Громыко [и др.] ; под ред. В. И. Зеньковича. Минск : Аверсэв, 2015, 2017.
4. Громыко, Е. В. Физика. 10 класс. Самостоятельные и контрольные работы (базовый уровень) : пособие для учителей учреждений общ. сред. образования с белорус. и рус. яз. обучения / Е. В. Громыко, И. Э. Слесарь. Минск : Аверсэв, 2017.

| № урока | Дата | Тэма ўрока | Мэты вывучэння | Матэрыял вучэбнага дапаможніка |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| **1. Асновы малекулярна-кінетычнай тэорыі (19 г)** | | | | |
| 1 | | Асноўныя палажэнні малекулярна-кінетычнай тэорыі (МКТ) і іх доследнае абгрунтаванне | Абагульненне і паглыбленне ведаў пра дыскрэтнасць рэчыва, хаатычнасць руху часціц і іх узаемадзеянне; фарміраванне ўяўлення пра броўнаўскі рух, уменняў тлумачыць фізічныя з’явы, зыходзячы з асноўных палажэнняў МКТ | [1], § 1, с. 6—11 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 2 | | Маса і памеры малекул. Колькасць рэчыва. Рашэнне задач па тэме «Асноўныя палажэнні МКТ. Маса і памеры малекул. Колькасць рэчыва» | Прымяненне асноўных паняццяў МКТ (адносная атамная, малекулярная і малярная масы, колькасць рэчыва) пры вызначэнні масы і памераў малекул; фарміраванне ўменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 2 |
| 3 | | Макра- і мікрапараметры. Ідэальны газ. Асноўнае ўраўненне МКТ ідэальнага газу | Фарміраванне ведаў пра фізічную мадэль «ідэальны газ», паняццяў ціску газу, сярэдняй квадратычнай скорасці руху малекул, сярэдняй кінетычнай энергіі паступальнага руху малекул газу; разумення асноўнага ўраўнення малекулярна-кінетычнай тэорыі ідэальнага газу; уменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 3, с. 18—20, 22 |
| 4 | | Рашэнне задач па тэме «Асноўнае ўраўненне МКТ ідэальнага газу» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Асноўнае ўраўненне МКТ ідэальнага газу» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 5 | | Цеплавая раўнавага. Абсалютная тэмпература. Тэмпература — мера сярэдняй кінетычнай энергіі цеплавога руху часціц рэчыва. Ціск сумесі газаў. Самастойная работа па тэме «Асноўнае ўраўненне МКТ» | Фарміраванне паняццяў цеплавой раўнавагі, абсалютнай тэмпературы, парцыяльнага ціску газу, уяўленняў пра ціск сумесі газаў, ведаў пра тэмпературу як меру сярэдняй кінетычнай энергіі цеплавога руху часціц рэчыва.<br>Кантроль ступені засваення ведаў па тэме «Асноўнае ўраўненне МКТ» і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні | [1], § 4 |
| 6 | | Ураўненне стану ідэальнага газу | Устанаўленне сувязі паміж макраскапічнымі параметрамі стану ідэальнага газу; фарміраванне разумення ўраўнення стану ідэальнага газу, уменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 5, с. 33—35 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 7 | | Рашэнне задач па тэме «Ураўненне стану ідэальнага газу» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Ураўненне стану ідэальнага газу» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 8 | | Ізатэрмічны, ізабарны і ізахорны працэсы змянення стану ідэальнага газу | Фарміраванне паняццяў ізатэрмічнага, ізабарнага і ізахорнага працэсаў; разумення законаў Бойля — Марыёта, Гей-Люсака, Шарля; уменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 5, с. 35—39 |
| 9 | | Рашэнне задач па тэме «Ізатэрмічны, ізабарны і ізахорны працэсы змянення стану ідэальнага газу» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Ізатэрмічны, ізабарны і ізахорны працэсы змянення стану ідэальнага газу» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 10 | | Лабараторная работа № 1 «Вывучэнне ізатэрмічнага працэсу» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў праводзіць вымярэнні макрапараметраў газу; даследаванне залежнасці ціску газу дадзенай масы ад аб'ёму, які ён займае пры пастаяннай тэмпературы | [1], [2] |
| 11 | | Рашэнне задач па тэме «Ізатэрмічны, ізабарны і ізахорны працэсы змянення стану ідэальнага газу» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Ізатэрмічны, ізабарны і ізахорны працэсы змянення стану ідэальнага газу» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 12 | | Лабараторная работа № 2 «Вывучэнне ізабарнага працэсу» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў праводзіць вымярэнні макрапараметраў газу; даследаванне залежнасці аб'ёму газу дадзенай масы ад тэмпературы пры пастаянным ціску | [1], [2] |
| 13 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Асновы МКТ. Ідэальны газ» | Устанаўленне лагічнай сувязі паміж структурнымі элементамі ведаў па тэме «Асновы МКТ. Ідэальны газ», прывядзенне ў сістэму ведаў і практычных уменняў па дадзенай тэме | [1], [3] |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 14 | | Кантрольная работа № 1 па тэме «Асновы МКТ. Ідэальны газ» | Кантроль ступені засваення ведаў па тэме «Асновы МКТ. Ідэальны газ» і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні | |
| 15 | | Будова і ўласцівасці цвёрдых цел | Фарміраванне ўяўленняў пра будову цвёрдых цел; паняццяў крышталічнага цела, монакрышталя, полікрышталя, аморфнага цела; устанаўленне адрознення паміж крышталічнымі і аморфнымі цвёрдымі целамі | [1], § 6 |
| 16 | | Будова і ўласцівасці вадкасцей | Фарміраванне ўяўленняў пра будову вадкасцей, з'явы паверхневага нацяжэння, змочвання і нязмочвання, капілярныя з'явы | [1], § 7, с. 47—49, 51—54 |
| 17 | | Выпарэнне і кандэнсацыя. Насычаная пара. Вільготнасць паветра | Паўтарэнне і сістэматызацыя ведаў пра з'явы выпарэння і кандэнсацыі; фарміраванне паняццяў насычанай і ненасычанай пары, абсалютнай і адноснай вільготнасці паветра, пункта расы; знаёмства з прыборамі для вымярэння вільготнасці паветра; навучанне практычнаму вызначэнню вільготнасці паветра з дапамогай псіхрометра; фарміраванне ўменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 8 |
| 18 | | Лабараторная работа № 3 «Вымярэнне адноснай і абсалютнай вільготнасці паветра» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў праводзіць вымярэнні адноснай і абсалютнай вільготнасці паветра | [2] |
| 19 | | Рашэнне задач па тэме «Вільготнасць паветра» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Вільготнасць паветра» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| **2. Асновы тэрмадынамікі (11 г)** | | | | |
| 20 | | Тэрмадынамічная сістэма. Унутраная энергія. Унутраная энергія ідэальнага аднаатамнага газу | Фарміраванне паняццяў тэрмадынамічнай сістэмы, тэрмадынамічнай раўнавагі, унутранай энергіі; устанаўленне залежнасці ўнутранай энергіі ідэальнага аднаатамнага газу ад абсалютнай тэмпературы; фарміраванне ўменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 9 |
| 21 | | Работа ў тэрмадынаміцы. Колькасць цеплаты | Фарміраванне паняццяў работы ў тэрмадынаміцы, колькасці цеплаты; уменняў вызначаць работу ў тэрмадынаміцы, колькасць цеплаты ў розных цеплавых працэсах | [1], § 10 |
| 22 | | Рашэнне задач па тэме «Работа ў тэрмадынаміцы. Колькасць цеплаты» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Работа ў тэрмадынаміцы. Колькасць цеплаты» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 23 | | Першы закон тэрмадынамікі. Прымяненне першага закону тэрмадынамікі да ізапрацэсаў змянення стану ідэальнага газу | Фарміраванне разумення першага закону тэрмадынамікі як закону захавання і ператварэння энергіі тэрмадынамічнай сістэмы, раскрыццё яго фізічнага зместу пры разглядзе канкрэтных працэсаў; фарміраванне ўменняў прымяняць першы закон тэрмадынамікі да ізапрацэсаў змянення стану ідэальнага газу | [1], § 11, с. 78—81 |
| 24 | | Рашэнне задач па тэме «Першы закон тэрмадынамікі» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Першы закон тэрмадынамікі» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні пры рашэнні задач | [3] |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 25 | | Рашэнне задач па тэме «Прымяненне першага закону тэрмадынамікі да ізапрацэсаў змянення стану ідэальнага газу». Самастойная работа па тэме «Першы закон тэрмадынамікі» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Прымяненне першага закону тэрмадынамікі да ізапрацэсаў змянення стану ідэальнага газу» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні. Кантроль ступені засваення ведаў па тэме «Першы закон тэрмадынамікі» і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 26 | | Неабарачальнасць тэрмадынамічных працэсаў у прыродзе. Цеплавыя рухавікі. Прынцып дзеяння цеплавых рухавікоў. Каэфіцыент карыснага дзеяння (ККД) цеплавых рухавікоў | Фарміраванне ўяўленняў пра неабарачальнасць тэрмадынамічных працэсаў у прыродзе, пра будову і прынцып дзеяння цеплавых рухавікоў; паняцця каэфіцыента карыснага дзеяння цеплавога рухавіка, уменняў вызначаць каэфіцыент карыснага дзеяння цеплавых рухавікоў | [1], § 12, с. 88—93, 95 |
| 27 | | Рашэнне задач па тэме «ККД цеплавых рухавікоў» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «ККД цеплавых рухавікоў» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 28 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Асновы тэрмадынамікі» | Устанаўленне лагічнай сувязі паміж структурнымі элементамі ведаў па тэме «Асновы тэрмадынамікі», прывядзенне ў сістэму ведаў і практычных уменняў па дадзенай тэме | [1], [3] |
| 29 | | Кантрольная работа № 2 па тэме «Асновы тэрмадынамікі» | Кантроль ступені засваення ведаў па тэме «Асновы тэрмадынамікі» і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні | |
| 30 | | Экалагічныя праблемы выкарыстання цеплавых рухавікоў | Фарміраванне ўяўленняў пра значэнне цеплавых рухавікоў, экалагічныя праблемы іх выкарыстання (уздзеянне цеплавых рухавікоў на навакольнае асяроддзе і здароўе чалавека) | [1], § 12, с. 93, 94 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| **3. Электрастатыка (15 г)** | | | | |
| 31 | | Электрычны зарад. Закон захавання электрычнага зараду | Фарміраванне ведаў пра электрычны зарад і яго фундаментальныя ўласцівасці; разумення закону захавання электрычнага зараду; уменняў апісваць і тлумачыць узаемадзеянне зараджаных цел, прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 13 |
| 32 | | Узаемадзеянне пунктавых зарадаў. Закон Кулона | Фарміраванне ўяўленняў пра пунктавы зарад, паняцця дыэлектрычнай пранікальнасці рэчыва; разумення закону Кулона; уменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 14 |
| 33 | | Рашэнне задач па тэме «Закон захавання электрычнага зараду. Закон Кулона» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Закон захавання электрычнага зараду. Закон Кулона» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 34 | | Электрастатычнае поле. Напружанасць электрастатычнага поля. Напружанасць поля, ствараемага пунктавым зарадам. Лініі напружанасці электрастатычнага поля. Прынцып суперпазіцыі электрастатычных палёў | Фарміраванне паняццяў электрастатычнага поля, напружанасці як сілавой характарыстыкі электрастатычнага поля, ліній напружанасці электрастатычнага поля, аднароднага электрастатычнага поля; разумення прынцыпу суперпазіцыі электрастатычных палёў; уменняў вызначаць напружанасць электрастатычнага поля пунктавага зараду і сістэмы двух пунктавых зарадаў | [1], § 15 |
| 35 | | Рашэнне задач па тэме «Напружанасць электрастатычнага поля» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Напружанасць электрастатычнага поля» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 36 | | Работа сіл электрастатычнага поля. Патэнцыял электрастатычнага поля. Патэнцыял электрастатычнага поля пунктавага зараду. Патэнцыял электрастатычнага поля сістэмы пунктавых зарадаў. Самастойная работа па тэме «Закон Кулона. Напружанасць электрастатычнага поля» | Фарміраванне паняцця патэнцыялу як энергетычнай характарыстыкі электрастатычнага поля; уменняў вызначаць патэнцыял электрастатычнага поля пунктавага зараду і сістэмы пунктавых зарадаў, работу сіл аднароднага электрастатычнага поля.<br>Кантроль ступені засваення ведаў па тэме «Закон Кулона. Напружанасць электрастатычнага поля» і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні | [1], § 16 |
| 37 | | Рознасць патэнцыялаў электрастатычнага поля. Напружанне. Сувязь паміж рознасцю патэнцыялаў і напружанасцю аднароднага электрастатычнага поля | Фарміраванне паняццяў рознасці патэнцыялаў, напружання; устанаўленне сувязі паміж рознасцю патэнцыялаў і напружанасцю аднароднага электрастатычнага поля; фарміраванне ўменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 17 |
| 38 | | Рашэнне задач па тэме «Работа сіл электрастатычнага поля. Патэнцыял. Напружанне. Прынцып суперпазіцыі электрастатычных палёў» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Работа сіл электрастатычнага поля. Патэнцыял. Напружанне. Прынцып суперпазіцыі электрастатычных палёў» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 39 | | | | |
| 40 | | Электраёмістасць. Кандэнсатары. Электраёмістасць плоскага кандэнсатара. Самастойная работа па тэме «Работа сіл электрастатычнага поля. Патэнцыял і рознасць патэнцыялаў» | Фарміраванне паняцця электраёмістасці, уяўленняў пра будову кандэнсатараў; уменняў вызначаць электраёмістасць плоскага кандэнсатара.<br>Кантроль ступені засваення ведаў па тэме «Работа сіл электрастатычнага поля. Патэнцыял і рознасць патэнцыялаў» і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні | [1], § 20 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 41 | | Рашэнне задач па тэме «Электраёмістасць. Электраёмістасць плоскага кандэнсатара» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Электраёмістасць. Электраёмістасць плоскага кандэнсатара» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 42 | | Энергія электрастатычнага поля кандэнсатара | Фарміраванне паняцця энергіі электрастатычнага поля кандэнсатара, уяўленняў пра практычнае прымяненне кандэнсатараў, уменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 21 |
| 43 | | Рашэнне задач па тэме «Энергія электрастатычнага поля кандэнсатара» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Энергія электрастатычнага поля кандэнсатара» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 44 | | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме «Электрастатыка» | Устанаўленне лагічнай сувязі паміж структурнымі элементамі ведаў па тэме «Электрастатыка», прывядзенне ў сістэму ведаў і практычных уменняў па дадзенай тэме | [1], [3] |
| 45 | | Кантрольная работа № 3 па тэме «Электрастатыка» | Кантроль ступені засваення ведаў па тэме «Электрастатыка» і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні | |
| **4. Пастаянны электрычны ток (6 г)** | | | | |
| 46 | | Паўтарэнне: законы пастаяннага току | Паўтарэнне і сістэматызацыя ведаў па тэмах «Электрычны ток. Сіла току. Напружанасць. Супраціўленне», «Закон Ома для ўчастка ланцуга», «Паслядоўнае і паралельнае злучэнне праваднікоў», «Работа і магутнасць току. Закон Джоўля — Ленца» | |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 47 | | Умовы існавання пастаяннага электрычнага току. Пабочныя сілы. Электрарухаючая сіла (ЭРС) крыніцы току | Фарміраванне паняцця ЭРС крыніцы току; уяўленняў пра ўмовы існавання пастаяннага электрычнага току, крыніцы пастаяннага электрычнага току, пабочныя сілы; уменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 22 |
| 48 | | Закон Ома для поўнага электрычнага ланцуга. Каэфіцыент карыснага дзеяння крыніцы току | Фарміраванне разумення закону Ома для поўнага ланцуга; аналіз розных рэжымаў работы электрычнага ланцуга; фарміраванне паняццяў сілы току кароткага замыкання, работы, магутнасці і ККД крыніцы току; уменняў прымяняць атрыманыя веды пры рашэнні задач | [1], § 23 |
| 49 | | Рашэнне задач па тэме «Закон Ома для поўнага электрычнага ланцуга. ККД крыніцы току» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Закон Ома для поўнага электрычнага ланцуга. ККД крыніцы току» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| 50 | | Лабараторная работа № 4 «Вымярэнне ЭРС і ўнутранага супраціўлення крыніцы току» | Фарміраванне эксперыментальных уменняў праводзіць вымярэнні ЭРС і ўнутранага супраціўлення крыніцы току | [1], [2] |
| 51 | | Рашэнне задач па тэме «Пастаянны электрычны ток». Самастойная работа па тэме «Пастаянны электрычны ток» | Дыягностыка ступені засваення ведаў па тэме «Пастаянны электрычны ток» і фарміраванне практычных уменняў па іх прымяненні.<br>Кантроль ступені засваення ведаў па тэме «Пастаянны электрычны ток» і сфарміраванасці практычных уменняў па іх прымяненні | [3] |
| **5. Магнітнае поле. Электрамагнітная індукцыя (14 г)** | | | | |
| 52 | | Дзеянне магнітнага поля на праваднік з токам. Узаемадзеянне праваднікоў з токам | Фарміраванне паняцця магнітнага поля, уменняў апісваць дзеянне магнітнага поля на праваднік з токам, узаемадзеянне праваднікоў з токам | [1], § 29 |

